# ЗАРАНКА

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСАПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ.

Год IV. Вільня, Люты 1931 № 1.



Малады Дзядок.

## Няхай жыве „Заранка“

Праняслась па небе
Над загонам родным
Цудная навіна
Сокалам свабодным.

Родная „Заранка“,
Што так доўга спала,
На пацеху дзеткам
Сяньня йзноў устала.

Краскаю чароўнай
На блакіце зьяе,
Яе, як Князёўну,
Дзеткі спатыкаюць.

Малады Дзядочак
З радасьці, аж скача!
Бо-ж і ён „Заранку“
Даўненька ня бачыў.

На слабенькай ліры
Ён, як можа, грае,
Родную „Заранку“
Песьняю вітае.

Хай нясецца песьня
Сокалам свабодным!
Хай жыве „Заранка“
Над загонам родным!

29.I. 1931 г.



# Дарагія падпішчыкі і чытачы!

Два гады „Заранка“ спала і здавалася, што ўжо ніколі не прачнецца. Якая-ж гэта прычына?

Спатыкалі дзеткі яе з радасьцю, чыталі з прыемнасьцю, прысылалі шмат сваіх працаў: апавяданьняў, загадак і г. д. Чаго-ж больш трэба? А вось забываліся, і дзеці і іх бацькі, што „Заранцы“ трэба — грошы. Шмат хто абяцаў прыслаць падпіску, ды на абяцанцы і кончылася.

Чакала „Заранка“, чакала, памагала сабе зьбіраньнем ахвяраў: але нарэшце зьнясілася зусім і заснула.

Прайшло два гады. І вось „Аб‘яднаньне Беларускіх Жанчын“ ім. беларускай паэткі Алёізы Пашкевічанкі („Цёткі“) пастанавіла збудзіць „Заранку“ ад доўгага сну, ахвяраваўшы пэўную суму на яе выданьне.

Але-ж гэтая арганізацыя мае і іншыя намеры, як напр. выдаваньне дзіцячых цікавых кніжак, на што патрэбны вялікія грошы, дзеля таго на „Заранку“ шмат даць ня можа.

Высылаючы гэты № „Заранкі“ ўсім сваім даўнейшым падпішчыкам і чытачом, ізноў просім Вас: памажэце! — падтрымайце яе існаваньне! прысылайце падпіску, здабывайце новых падпішчыкаў! Старайцеся, каб кожная беларуская бібліятэка-чытальня выпісывала і аплачывала „Заранку“.

Ваша, дзеткі, яна, дык і думайце аб яе патрэбах.

Цяпер, як і даўней у „Заранцы“ будзе адзел „Працы нашых чытачоў“.

Прысылайце казкі, апісаньні сваіх вёсак і мястэчак, загадкі, жарты і г. д.

*Рэдакцыя і адміністрацыя.*



# Ліст Маладога Дзядка да Беларускіх дзетак.

*Мілыя Дзеткі!*

Бязьмежнаю радасьцю напоўнілася маё сэрца, калі даляцела да мяне вестка, што наша дарагая „Заранка” прачнулася ад сна. Так, ня ўмёрла „Заранка“! Яна толькі спала, каб цяпер прабудзіцца ў поўнай красе і сіле!

„Заранка“ ведала й ведае, што на Яе з тугою чакаюць нашыя дзеткі, дык вось, як тая зачараваная Князёўна з казкі, устае Яна чароўнаю краскай на кругазоры беларускае зямлі. „Заранка“ йдзе да Вас, родненькія дзеткі, з запасам хлеба духовага, каб асьвятляць Вашыя галоўкі і вучыць кахаць родную Бацькаўшчыну. І калі толькі часу „Заранка“ спала, то гэта ня была Яе віна. Яна заўсёды Вас кахала і кахаць будзе! Нясе Вам шмат прыгожых казак, апавяданьняў, вершыкаў, жартаў і інш.

Дык-жа шчыра спаткайце „Заранку“, дзетачкі любыя, прымеце пад сваю родную стрэшку, бо й Яна-ж Ваша родная і сэрцу блізкая.

Я, ад сябе, пастараюся, таксама, зьмяшчаць у „Заранцы“ свае лісты да Вас, баяць казачкі, апавяданьні, жарты й вершыкі, маляваць малюнкі, так, як гэта рабіў ад самага пачатку „Заранкі“ ў 1927 г. і ў 1928, 1929 г.

Было-б міла мне спаткаць між іншымі маладзенькімі супрацоўнікамі і чытачамі „Заранкі“ маіх даўнейшых прыяцеляў: Марусю з Антокалю, Аксану, Янку Патаповіча, Сярожу Пастушка, Мікалая Дылька, Зоню і Стэфуся Войцікавых, Покаўку, Марысю Ласька, Андрэя Начуя, Аляксея Патаповіча, Сяргея Атрахімовіча, Еўстафа Ваховіча і шмат, шмат іншых.

Пішыце да „Заранкі“, а калі хочаце, дык і да мяне. Я быў Вашым прыяцелям і, верце, што й цяпер гэткім астаўся і для Вас гатоў ахвотна працаваць.

Няхай жыве „Заранка“!

Да пабачэньня ў вялізарным гурце прыяцеляў „Заранкі“!

Бывайце здаровенькія, мілыя дзеткі!

Кахаючы Вас

29. I. 1931 г. **Малады Дзядок.**

**Віталі Біанкі.**

# Лясныя хаткі.

Высака над рэчкаю, над спадзістай кручай насіліся маладыя ластаўкі — паўзьбярэжкі.

Ганяліся адна за аднэю з віскам і ціўканьнем,— весела бавіліся.

Была ў іх чарадзе адна маленкая Паўзьбярэжка, такая спрытная: ніяк яе дагнаць нельга было, — ад усіх выкручваецца.

Пагоніцца за ею якая ластаўка, а яна —туды, сюды,— уніз, уверх,—у бок кінецца, ды як пусьціцца ляцець – толькі крылкі мільгацяць. Раптам, — адкуль ні вазьміся, — сакол-каршачок імчыцца. Вострыя, выгнутыя крыльлі так і сьвішчуць.

Ластаўкі перапалохаліся... усе — уроссып, хто куды,— у момант разьляцелася ўся чарада. А спрытная Паўзьбярэжка ад яго бяз возірку за рэчку, ды над лесам, ды цераз возера!

Надта-ж страшэнны быў сакол-каршачок.

Ляцела, ляцела Паўзьбярэжка, — зусім зьнясілілася. Паглядзела назад: нікога ззаду, няма.

Навакол аглядзелася: а месца зусім незнаёмае.

Паглядзела ўніз:—унізе рэчка цячэ.

Толькі не свая: — чужая нейкая. Спалохалася Паўзьбярэжка. Дарогу да дому яна не памятала: дзе-ж было ей памятаць, калі яна няслася бяз прытомнасьці ад спалоху?

А ўжо вечар быў,—ноч хутка. Што тут рабіць?

Жудасна зрабілася маленькай Паўзьбярэжцы. Паляцела яна ўніз, села на беразе і горка заплакала. Раптам, бачыць: бяжыць каля яе па пяску маленькая жоўтая птушка з чорнымі гальштукамі на шыі.

Паўзьбярэжка ўзрадавалася, пытаецца ў жоўтай птушкі:

— Скажыце, калі ласка, як мне да дому трапіць?

— А ты чыя? - пытае жоўтая птушка.

— Ня ведаю,—адказвае Паўзьбярэжка.

— Цяжка-ж будзе табе сваю хатку адшукаць! — кажа жоўтая птушка.—Хутка сонца зайдзе, цёмна зробіцца. За-

ставайся лепей у мяне начаваць. Мяне завуць Зуёк. А хата ў мяне вось тут: — побач.



Зуёк адбег некалькі крокаў і паказаў дзюбам на пясок. Потым пачаў кланяцца, хістацца на цененькіх ножках і кажа:

— Вось яна, мая хатка. Захадзі!

Зірнула Паўзьбярэжка: — наўкола пясок ды аточак, а хаты ніякай няма.

— Няўжо ня бачыш? — зьдзівіўся Зуёк. — Вось сюды глядзі, дзе паміж каменьчыкамі яйкі ляжаць.

Ледзь-ледзь разглядзела Паўзьбярэжка: — чатыры яйкі з рудымі кропкамі ляжаць у радок проста на пяску сярод аточак.

— Ну, чаго-ж ты? — пытаецца Зуёк. — Ці-ж табе не падабаецца мая хата?

Паўзьбярэжка ня ведае, што і адказаць: скажаш, што хаты ў яго няма — яшчэ гаспадара абразіш. Вось яна яму і кажа:

— Не прызвычаілася я на чыстым паветры спаць, на голым пяску, бяз подсьцілкі.

— Шкада, што не прызвычаілася! — гаворыць Зуёк. — Тады ляці вунь у той яловы лясок. Спытай там голуба, якога завуць Віцюцень. Хата ў яго з падлогаю. У яго і начуй.

— Дзякую! — узрадавалася Паўзьбярэжка.

І паляцела ў яловы лясок. Там яна хутка знайшла ляснога голуба Віцюценя і папрасілася да яго начаваць.

— Начуй, калі табе мая хата падабаецца, — кажа Віцюцень.

А якая ў Віцюценя хата? Адна падлога, дый тая, як рэшата — уся ў дзірках. Проста пруточкі на галінкі пакіданы, як папала. На пруточках белыя галубовы яйкі ляжаць. Зьнізу іх відаць: прасьвечваюць скрозь дзіравую падлогу. Зьдзівілася Паўзьбярэжка.—У вашай хаце,—кажа яна Віцюценю,—адна падлога, нават сьцен няма. Як-жа ў ёй спаць?



— Што-ж—гаворыць Віцюцень, — калі табе патрэбна хата са сьценамі, дык ляці, адшукай Івалгу. У яе табе спадабаецца. І Віцюцень растлумачыў Паўзьбярэжцы, як знайсьці хату Івалгі:—у гаі, на самай прыгожай бярозе.

Паляцела Паўзьбярэжка ў гай. А ў гаі бярозы адна аднае прыгажэйшыя.

Шукала, шукала хату Івалгі і вось, урэшце, убачыла: вісіць на бярозавай галінцы маленечкая, лёгкая хатка.

Такая выгадная хатка, і падобна да ружы, зробленай з ценкіх лісьцяў шэрай паперы.

— Якая-ж у Івалгі хатка маленькая!—падумала Паўзьбярэжка.—Нават я ў ёй не зьмяшчуся.

Толькі яна хацела пастукаць, — раптам з шэрае хаткі выляцелі восы.

Закруціліся, загудзелі,—зараз уджгнуць! Спалохалася Паўзьбярэжка і хутчэй паляцела далей.

Імчыцца сярод зялёнага лісьця. Вось нешта залатое і чорнае бліснула ў яе перад вачыма. Падляцела бліжэй, бачыць: на галінцы сядзіць залатая птушка з чорнымі крыльлямі.



— Куды ты сьпяшаешся?—гукае залатая птушка Паўзьбярэжцы.—Хату Івалгі шукаю,—адказвае Паўзьбярэжка.

— Івалга—гэта я,—кажа залатая птушка.—А хата мая вось тутака, на гэтай прыгожай бярозе.

Паўзьбярэжка спынілася і паглядзела, куды Івалга ёй паказвае.

Спачатку яна нічога заўважыць не магла:—усё толькі зялёнае лісьцё ды белыя бярозавыя галінкі.

А калі ўгледзілася, дык аж вохнула.

Высака над зямлёю да галінкі прычэплены лёгкі, плецены кошычак.

І бачыць Паўзьбярэжка, што гэта і сапраўды хатка. Хітра так зьвіта з пянькі і сьцяблінак, валаскоў і паўсьцінак ды ценкай бяросты.



— Ух—кажа Паўзьбярэжка Івалзе, — нізавошта не застануся начаваць у гэтакай зыбкай будоўлі! Яна зыбаецца, — і ў мяне ўсё перад вачыма верціцца, круціцца... Як быццам яе на зямлю зьдзьмухне. Дый даху ў вас няма.

— Ляці да Будаўнічка,—кажа ёй пакрыўджаная залатая Івалга.— Калі табе боязна на сьвежым паветры спаць, дык табе, мабыць, спадабаецца ў яго шалашы пад дахам.

Паляцела Паўзьбярэжка да Будаўнічка.

(Працяг будзе).




Сонца сьвеціць
там над намі,
Сьнег іскрыцца
пад нагамі,
Мароз цісьне,
дакучае,

А наш Янка
і ня дбае:
З гор на саначках
нясецца, —
Гараць вочкі,
Сэрца б'ецца...

*Л. В.*

# Як жылі нашы продкі у мінуўшчыне.

## Разьдзел першы.

### 1. Скуль мы даведваемся аб зямлі і людзях?

Ня толькі кожны з вас, дзеці, але й кожны чалавек, бачачы выгляд свае краіны і жыцьцё людзей гэтае краіны задае сабе пытаньні: — А як-жа выглядала нашая краіна раней? Хто тут жыў перад нашымі дзядамі і прадзедамі? Адкуль зьявіліся тут людзі? Ці вялікая нашая зямля? і гэтак далей. Пытаньні гэтыя зусім зразумелыя, бо кожнаму чалавеку ўроджана ёсьць цікавасьць. Кожны з вас, пэўна, ужо нават чуў адказы на гэткія пытаньні ад сваіх сяброў, бацькоў, знаёмых або шукаў іх у кніжках. Адказы напэўна былі розныя, хоць і падобныя трохі адзін да аднаго. Вось-жа ў нашых гутарках, пастараемся высьвятліць усе гэтыя пытаньні і даць на іх адказы.

У нашыя часы чалавеку ня трудна даведацца ня толькі аб нашым краі, але і наагул аб зямлі, а таксама ня толькі

аб тутэйшых жыхарох, але й аб усіх людзях. Даволі сабе толькі прыглядзіцца бліжэй навокал самых сябе і мы заўважым, што ёсьць шмат сьродкаў, каб хутка аб усім гэтым даведацца. Чугункай, самаходам, параходам і аэраплянам, ня кажучы ўжо пра пераправу жывёламі, чалавек ужо змог пазнаць і захапіць усю зямлю. Чалавек пазнаў выгляд зямлі, называючы яе вялікай куляй, хоць доўга перад гэтым думаў, што зямля нашая плоская; пазнаў яе вялічыню, палажэньне ў сусьвеце і адчыніў шмат тайнаў прыроды.

Аднак не адразу ён дайшоў да гэтага. Вось-жа апісаньнем, як чалавек дайшоў да сучаснага жыцьця, як ён жыў у мінуўшчыне на сваёй бацькаўшчыне і як жылося ў іншых краінах,—займаецца навука г і с т о р ы я.

Цяпер не абавязкава кожнаму з нас трэба езьдзіць па зямной кулі, каб пазнаць усе краіны і народы. На гэта нехапіла-б нам часу і грошы. Добра, калі хто змог-бы асабіста паехаць і пазнаёміцца з тэй, ці іншай краінай і яе жыхарамі, але ўсёроўна ўсюды-б вы асабіста незмаглі-б пабываць. Дый, каб і паехаць, трэба ведаць куды ехаць і што аглядаць. Вось-жа аб гэтым можна даведацца на лекцыях, з кніжак, г е о г р а ф і і. Географія гэта таксама навука, якая апісвае выгляд зямлі і ўсё, што на ёй знаходзіцца. Як напрыклад: горы, моры, рэчкі, людзей, зьвяроў і г.д. Вучыць яна таксама дзе холадна, дзе горача, ад чаго бывае дзень, ноч, поры году, ды шмат і шмат цікавых іншых рэчаў.

Гісторыя і географія, гэта дзьве, зусім розныя навукі, але яны адна аднэй дапамагаюць. З гэтых навук, ды яшчэ шмат іншых успамагаўчых, мы можам даведвацца аб зямлі і людзях.

Калі мы вывучаем мінуўшчыну нашага краю, беларускага, дык гэта будзе гісторыя Беларусі, а калі толькі выгляд і жыхароў гэтага-ж краю, дык гэта будзе—географія Беларусі. Трэба-ж нам аднак помніць, што гісторыя і географія Беларусі гэта толькі частка сусьветнай географіі і гісторыі. Пазнаньне-ж нам гісторыі, як свае, гэтак і іншых людзей і народаў—неабходна, бо праз пазнаньне гэтае мы навучымся шанаваць іншых і любіць свой уласны народ і край.

М. Ільяшэвіч.

(П р а ц я г  б у д з е).

# Прыгоды аднэй жабы*).

**Расказ праф. Ф. Мюльлера.**

Пераклаў А. В.

Усім ведама, што з наступленьнем восені птушкі зьбіраюцца стадамі і лятуць ад нас у цёплыя краі. Але, што такім-жа спосабам перасяляюцца з сваей летняй аселасьці ў зімовыя памяшчэньні жабы і іншыя земляводныя, чуў ня кожны.

У адну хмарную васеньнюю ноч каля вялікай саджаўкі за горадам тварылася нешта дзіўнае. Нешта паўзло, шапацела, шлёпала, скакала. Гэта жыхары саджаўкі перабіраліся з лецішча на зімовыя кватэры. Мітусьня цягнулася амаль ня ўсю ноч. Спачатку жабы паўзьлі аднэй кучкай, потым распаўзьліся па суседнім полі, лузе і зарасьлях. Хто залез у пустую норку палёвай мышы, хто ў памяшчэньне крата, пад карэньне, а хто ў гушчар зарасьляў, Нашоўшы выгадны прытулак, дзеячымся пад асжывёліна заснула лонай ночы перасяда чароднай вясны. леньні земляводных, Жыхары гораду спакалі-б недалёка ад койна спалі і на'т саджаўку не вялася не падазравалі-б аб каналізацыйная праца. Каб палажыць трубы ў зямлю, былі выкапаныя глыбокія равы. Дурныя істоты налезьлі ноччу ня толькі ў равы, але на'т і ў трубы. Раніцай пайшлі туды людзі і ўбачылі множства мітусячыхся, няпрошаных гасьцей. Толькі, дзякуючы гэтаму выпадку, і даведаліся аб нязвычайным руху перасяленцаўпаўзуноў.

Адна жаба аблюбавала сабе дзеля зімоўкі сад, прылягаючы да парку дому, засела ў шчэлцы паміж дзёрнам,

---

*) Гэты пачатак расказу друкаваўся ў 1929 годзе у 2-3 (15-16) кніжцы „Заранкі". Хочучы даць яго працяг, не адсылаючы чытачоў да старой „Заранкі", пачынаем ізноў спачатку.

закапалася глыбей і пачала лятуцець аб тлустых мухах і сакавітых сьлімакох.

Так прайшла зіма і веснавое сонца пачало прыграваць зямлю. Прачнулася жаба, адчыніла вочы і выцягнула змучаныя ад доўгай лежні члены. У норцы было цёмна і цесна, толькі ў маленькую шчэлку прабіваліся коскі сьвятла.

Паўсонная жаба сядзела і раздумвала. Раптам нехта яе піхнуў, нехта падняў пласт дзёрну, прыкрываўшы яе норку, а жабу так і абліло сонечным сьвятлом. Сын уласьніка саду стаяў з лапатай у руках і ўжо хацеў зрабіць брыдкай істоце сьмяротны ўдар сваей зялезнай прыладай, але надышоўшы сівы дзед яго затрымаў.

— Не, чакай, даражэнкі! Ты зьбіраешся забіць найлепшага нашага прыяцеля! Няхай сабе жыве і дае нам карысьць. Табе яна дасьць яшчэ шмат прыемнасьці.

Запраўды, хлопчык і жаба хутка здружыліся. Хлопчык пераканаўся, што нялюбая за сваю брыдоту жаба —вельмі карыснае стварэньне; назіраючы-ж за ей, ён не адзін раз сьмяяўся над яе сьмешнымі выбрыкамі.

Патрывожаная жаба злосна надзьмулася, але ўсё сядзела ў сваім разбураным памяшчэньні, пакуль яе крыху не раскраталі канцом палкі. Тады яна скрыўджана зрабіла некалькі скокаў ды ізноў села. Цяпер пры ясным сонечным сьвятле, яе можна было добра разглядзець. Бясформнае бронзавае цела яе было пакрыто барадаўкамі, чырвонаватыя вытарашчаныя вочы з цікавасьцю глядзелі на божы сьвет. Жываток яе за зіму значна паменшыўся і яе страшэнна мучыў голад.

Раптам жаба ўздрыгнулася, вочы яе зазігацелі: яна ўбачыла муху, якая сядзела на калыханай ветрам сухой былінцы. Як кот, кралася яна да мухі. Мігнуў у паветры чырвоны язык і муха зьнікла ў шырокай, абведзенай белым шлякам ляпе. Жаба глынула сваю першую здабычу і ад задаваленьня заплюснула вочы.

Дзед загадаў унуку палажыць пласт дзёрну на старое месца, каб жабе было куды хавацца і каб яна асталася ў садзе. Хутка яны згубілі яе з воч і ня бачылі цэлы тыдзень.

Каля саджаўкі, з якой у восень павыскаквалі ўсе жыхары, жыцьцё ізноў закіпела. Як яны выяжджалі, гэтак-сама

ўначы і вярнуліся на сваё старое мейсца, а цяпер вечарамі давалі вясёлыя канцэрты на беразе саджаўкі. У іх вясёлым веснавым сьвяце прыймала ўдзел і наша жаба. Зігаючы сваімі рубінавымі вачыма, сядзела яна на беразе і вывадзіла свае тоны. Падчас яна люта кідалася на перашкаджаўшых ей другіх жабаў і пераварочвалася ў барацьбе белым брушкам угару. Зрэшта і сярод жыхароў саджаўкі былі важныя пэрсоны, брыдзячыяся таварыствам няпрыгожай жабы. Прыгожыя залёныя жабкі проста ад яе адварачываліся. Жаба, аднак, роўнадушна перанасіла пагарду, якую яна прывыкла бачыць і ад жывёлы і ад людзей.

Удоваль нацеўшыся харaствoм веснавых ночаў, жаба зноў прыпаўзла ў сад. Уночы яна бегала па ўсім садзе і шукала ў розных кутках выгадных норак, у якіх яна праседжвала днём, аддаючыся салодкай поўдрамоце. Яна знашла сабе зацішны куточак за межамі саду, у вузкой шчэлцы пад дзьвярмі дому. Яна сядзела і глядзела ўгару, а людзі праходзілі каля яе і на‘т не падазравалі яе прысутнасьці. Толькі стары слуга падгледзіў раз, як яна хавалася ў сваю норку і расказаў мне аб гэтым, а то я, як і ўсе іншыя, праходзіў-бы, не заўважыўшы яе. Часьцей, аднак, жаба знаходзілася ў садзе.

Усе жабы маюць звычай прытаіцца дзе-небудзь у шчэлцы зямлі ці пад камянём і сядзець там цэлыя дні, з цікавасьцю выглядаючы, каб бачыць, што навокал дзеецца. Пры гэтым трэба адзначыць, што жаба амаль не заўсягды выбірае такое месца, дзе-б колер яе скуркі адказваў ахварбоўцы абкружаючых прадметаў. Такім чынам, найлепшае вока з трудом можа яе ўбачыць.

Істнуе пагляд, што стварэньне, званае хамелеонам, адно мая здольнасьці мяняць колер сваей скуры. Між тым шмат з нашых земляводных маюць тыя-ж асаблівасьці, толькі іх зьмена ня так кідаецца ў вочы.

Калі наша жаба сядзела ў сваёй землянай норцы, яе гузатавая скура была землянога коляру, сядзе яна пад вялікі зялёны ліст — яна здаецца аліўковай; у кучы сухога лісьця—яна набывае руды колер. Ахварбоўка скуркі жабы мяняецца таксама, калі яна раззлуецца ці спалохаецца і г. д.

Пасяліўшыся ў садзе, і бачачы, што яе ніхто не чапае,

жаба ўзялася за паляваньне на мухі і жамяру. Хутка яна адгадавала сабе прыстойны жываток. Аб стройным стане, які ў яе быў зімой, не асталося і ўспаміну. На паляваньне яна выходзіла з надыходам змроку.

Сьмешна было глядзець, як, намеціўшы сваю здабычу, яна выпроствалася каля сьцяны ці куста. Адзін мамэнт і нешчасьлівая ахвяра зьнікала ў ляпе.

Мы сталі ей прынасіць жучкоў, мух, лясных клапоў, казельчыкаў; яна брала іх з рук. Толькі вялікія матылькі з жорсткімі скрылячкамі ей не смакавалі. Пасьля некалькіх неўдачных спробаў глынуць такога матылька, яна рашыла, што мы прыносім ей назлосьць, стала злосна адварачвацца кожны раз, як мы ей прапанавалі нялюбую страву.

Раз хлопчык злавіў касматую гусьвіцу шаўкавічнага чарвяка і прынёс яе жабе. Яна зьдзіўлена глядзела на гэтую касматую істоту; але калі гусьвіца закраталася, жаба шпарка высунула язык і заплюшчыла ад здаволеньня вочы, думаючы, што яе глынула. Запраўды-ж гусьвіца сядзела на сваім мейсцы: мусіць валаскі, якія пакрывалі яе цела, перашкаджалі жабе падхапіць яе сваім ліпкім языком. Адчыніўшы вочы і ўбачыўшы перад сабой гусьвіцу, жаба падумала, што гэта другая ды ізноў высунула язык, каб яе падхапіць, але ізноў бяз рэзультату. Так досьць доўга цягнулася, пакуль, нарэшце гусьвіца ня скруцілася ў клубочак, і тады ужо жабе лёгка было глынуць.

(Працяг будзе).



# КУТОК СЬМЕХУ

## ШТО ТАКОЕ „АСЁЛ“?

— Ці ты бачыла асла? — пытаецца вучыцель аднае дзяўчынкі.

— Бачыла.

— А што гэта такое асёл?

— Асёл—гэта такі вучань ці вучаніца, якія ня хочуць вучыцца — адказывае дзяўчынка.

## ПРАЎДА.

Бацька: Сынку, кажы праўду!

Сын: Я баюся.

Бацька: Чаго-ж ты баішся?

Сын: Бо тата няраз казаў, што праўда ў вочы коліць.

## ПРЫ КАВЕ.

5-ці гадовы Янка: — Мамка, кава гаркая!

Маці: — Салоджаная, толькі мяшай!

Янка мяшае ды мяшае, каштуе, нарэшце кажа: мяшай цяпер ты, мамка, бо я нічага вымяшаць не магу!

(Падаў Малады Дзядок).

*

— Слухай, Янка, як прыедзе пап прафэсар, то адчыніш яму вароты.

— А хто гэта такі пан прафэсар?

— Гэта такі разумны чалавек, які ўсё ўмее.

— Калі ён усё ўмее, то і вароты сабе адчыніць.

*

— Ты мне казаў, што па дванаццацёх лекцыях буду добра езьдзіць на ровэры, а зусім ня так сталася.

— Бо ты амаль не праз увес час ляжыш на зямлі.

(Падаў Антось).

# Загадкі і круцігалоукі.

```
 1.  x x x x X x x x x x
 2.    x x x X x x x
 3.      x x X x x
 4.        x X x
 5.      x x X x x
 6.      x x X x x
 7.    x x x X x x x
 8.      x x X x x
 9.    x x x X x x x
10.      x x X x x
11.      x x X x x
12.    x x x X x x x
13.      x x X x x
14.    x x x X x x x
```

## КРУЦІГАЛОЎКА.

У кожным радку крыжыкаў азначаных цыфрамі паставіць словы, якіх сярэднія літары, чытаныя з гары ўніз, дадуць загаловак паэмы з XIX веку невядомага аўтара.

Значэньня слоў: 1) Вучоны, каторы разьбірае стараэгіпскія напісы. 2) Край, які мяжуе з Беларусьсю. 3) Што ходзіць па ліне цераз раку. 4) Гародніна. 5) Складная частка глебы. 6) Зборнік вершаў Максіма Багдановіча. 7) Востраў на Індыйскім акіяне. 8) Інакш цікая гутарка. 9) Назоў месяца. 10) Завала на Дняпры 11) Сталая зорка. 12) Хмары шкоднікаў. 13) Іглястае дрэва. 14) Прыток Вільлі.

Злажыў С. Пастушок.

---

## ЗАГАДКА:

1) Я ня зьвер, ня птушка, не чалавек, але маю ногі. Перасоўваюць мяне рукамі і няма сходу, дзе-б мяне ня было?

2) Што будзе казе пасьля сямёх гадоў?

3) Хто можа бяз пэндзля, бяз фарбаў намаляваць у вадну мінуту чый хочаце партрэт?

4) Месяц—маладзік ўдзень на полі блішчэў, уночы на неба ўзьляцеў?

5) Тысяча братоў адным поясам падпіразаны, пад матку пастаўлены?

6) Хоць мае крыльлі, лётаць на можа, хоць зерняты есьць, але заўсёды галодны?

---

Рэдактар: Л. ВОЙЦІКАВА, Выдавец: „Аб'яднаньне Бел. Жанчын"

Друкарня Я. Левіна, Вільня Нямецкая 22.



# „ЗАРАНКА“

**Ілюстраваная часопісь для дзяцей.**

*Выходзіць кніжкамі.*

ПАДПІСНАЯ ЦАНА З ПЕРАСЫЛКАЙ:

3 кніжкі — 1 зл. 15 гр.
Адна кніжка — 45 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Падпіска прыймаецца з кожнага месяца.

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі:

**Вільня, Віленская вул. № 8, кв. 3**

